

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№236 (749) 3 снежня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500023 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**6 декабря в Минском информационно-культурном центре отдел внешних связей Международного валютного фонда проводит встречу с целью улучшения взаимопонимания между Беларусью и МВФ.**

Во встрече примут участие представители государственных и коммерческих структур, средств массовой информации, а также политических партий и движений республики.

❑

**Состоялась встреча председателя Государственного комитета по внешним экономическим связям Владимира Радкевича с Чрезвычайным и Полномочным Послом Республики Болгария в Беларуси Марко Ганчевым.**

В ходе диалога обсуждались пути взаимовыгодного сотрудничества между двумя государствами в самых различных сферах экономики.

❑

**К 19 августа 1991 года члены ГКЧП считали, что экс-президент СССР Михаил Горбачев, находившийся в то время на своей даче в Форосе в Крыму, одобряет их действия.**

Об этом заявил вчера на проходящем в Москве процессе по делу ГКЧП бывший руководитель КГБ Владимир Крючков.

❑

**По сообщению пресс-службы МИД Эстонии, на закончившейся в Риме встрече министров иностранных дел стран СБСЕ принят документ, в котором, кроме прочего, подчеркивается необходимость ускорить вывод российских войск из Латвии и Эстонии.**

В документ также включено требование к России представить точный график вывода.

❑

**Вчера в Молдове завершился переход на новую национальную валюту — молдавский лей.**

С 18.00 часов по местному времени он становится единственным законным платежным средством на территории республики.

❑

**Ни одного уголовного дела по октябрьским событиям в Москве в военные суды до сих пор не поступило.**

Об этом заявил заместитель министра юстиции, начальник управления военных судов России генерал-полковник Анатолий Муранов.

❑

**Центризбирком "оставил без удовлетворения" обращение председателя правительственной комиссии по проведению всенародного голосования по проекту Конституции, первого вице-премьера России Владимира Шумейко.**

Автор обращения поставил перед Центризбиркомом вопрос о снятии с регистрации Компартии Геннадия Зюганова и Демократической партии России Николая Травкина за их агитацию против проекта Конституции.

❑

**Абхазские формирования предприняли попытку прорваться к грузинским селам, находящимся на востоке Гульрипшского района Абхазии.**

Эти попытки, по данным из Тбилиси, были предотвращены отрядами местной самообороны и прибывшим из Сванетии подразделением грузинских правительственных войск.

❑

**Вчера на торгах Московской межбанковской валютной биржи курс доллара составил 1230 рублей за 1 доллар США — на пять рублей меньше, чем накануне.**




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Рубли не продавали — что бы это значило?

Опять не состоялись торги российской валютой на Межбанковской валютной бирже в Минске. Ее курс к безналичным белорусским расчетным билетам остался прежним — 1:4,15.

Ситуация с "торможением" курса российских денег на биржевом рынке республики знакома, потому что не забыто то время, когда на биржевые торги республики рубли не выставлялись, а курс сдерживался волевым усилием Национального банка на отметке 1:1,5. Правда, потом эти рубли в мгновение подорожали вдвое, а затем и вовсе в три раза. В сегодняшней же ситуации, как объяснили в валютно-экономическом отделе Национального банка, спрос в больших размерах превысил предложение и результатом этого стал неоправданный скачок рублевого курса.

**Екатерина ВЫСОЦКАЯ.**

### Забастовка не получилась. Получилось новоселье

**Его справили члены свободного профсоюза вилейского завода "Зенит".**

Этому событию предшествовало определенное противостояние нового профсоюза и администрации, грозившее вылиться в забастовку. Теперь же, помимо помещения и средств связи, свободный профсоюз получил возможность централизованно перечислять членские взносы, на его членов распространено действие коллективного договора, ранее подписанного на предприятии.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ.**

### Часть Новополоцка — с молотка

**В десятки раз поднимались начальные цены на первом в Новополоцке аукционе по продаже недвижимости.**

В результате за право на строительство торгового здания, например, было уплачено 112 миллионов рублей. А всего наторговали более чем на полмиллиарда. Среди аукционеров были предприниматели не только с Витебщины, но также из столицы республики. Большую часть приобретений составили торговые предприятия.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

### Сидели на минном погребе

**Под угрозой взрыва, в буквальном смысле слова, находился полтора десятка лет, сам того не подозревая, житель Хотимска В.Сотников.**

Недавно, копая с сыном под верандой погреб, он наткнулся на мину, пролежавшую в земле со времен последней войны. Приехавшие саперы подтвердили, что вся семья подвергалась реальной опасности на протяжении многих лет.

**Борис МИХЕЕВ.**

### Понедельник — день тяжелый. Особенно для "Гомсельмаша"

**С будущего понедельника вслед за рядом гомельских предприятий останавливает работу, как минимум, на месяц, самое крупное в области объединение "Гомсельмаш".**

Вызвано это, говорится в приказе генерального директора С.Прокопенко, нарушением хозяйственных связей, расстройством кредитно-финансовой системы, резким сокращением поступлений топливно-энергетических ресурсов и высокими ценами на них. Что предпримет в этой аховой ситуации собственник объединения — Совет Министров республики?

**Анатолий ЛИПСКИЙ.**

### Рада дала, рада и взяла

**Общество белорусской культуры в Вильнюсе снова осталось без помещения и адреса.**

Три одноэтажных домика, которые оно получило от Вильнюсской городской рады в 1990 году для создания Белорусского центра, новым решением городских властей переданы американскому бизнесмену литовского происхождения под строительство коммерческого центра. Рада Общества белорусской культуры опубликовала решительный протест против такого решения.

**Андрей КОРСАК.**

### Страсти в зените

**У проходной могилевского завода "Зенит" неспокойно. Который день стоят пикеты.**

Недовольны работники цеха N 10, которые предъявили заводской администрации требование обеспечить работу без сбоев, увеличить зарплату. Звучат также призывы к отставке руководства "Зенита".

По словам директора завода В.Омельчука, для нормального функционирования предприятия нужно ежемесячно иметь в обороте не менее 350 миллионов российских рублей. Между тем за реализованную продукцию "Зенит" получает всего 60—120 миллионов.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Прогноз на занос

**Хотя в Шумилинском райисполкоме нет профессиональных синоптиков, решение, принятое здесь, предсказывает снежную зиму.**

Местная власть заранее закрепила за колхозами и совхозами участки железной дороги, которые нужно будет расчищать от заносов, определила порядок организации работ. Платить за этот труд сельским жителям будут витебская и полоцкая дистанции пути.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Прекрасное далёко...

**Вчера возвратились из Испании в Минск оперная труппа и оркестр Государственного академического Большого театра оперы и балета Беларуси.**

Произведения Верди и Пуччини в интерпретации белорусского коллектива проходили с неизменными аншлагами в испанском далеке. Продлится ли триумф на родине артистов, станет ясно уже 4 декабря, когда "Царской невестой" Римского-Корсакова труппа возобновит сезон в Минске.

**Ирина ФЕДОРОВА.**

### Сталин "засветился". И был захоронен

**Сильнейшее радиоактивное излучение от портрета Сталина обнаружено на днях в Московском музее революции.**

Графическое изображение "вождя" на медной пластине, подаренное ему из Средней Азии еще в 1949 году, излучало 200 тысяч микрорентген в час. Портрет Сталина захоронен на радиоактивной свалке.

**Леонид ФАДЕЕВ.**



Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН.

*У вянок памяці Каці Лышчышынай*

## "Я плачу, крычу: дзе мая тут віна?.."

Божа!

Завошта ўзяў на неба маладзенькую душу? Пазбавіў ад зямных пакут? Увёў у Царства райскае?

Каця пражыла на белым свеце 4380 дзён. Што паспела зрабіць і ўбачыць за свой міг?

*Палюбіць блакіт нябёсаў.*
*Пазнаць дабрыню мамы Веры,*
*таты Валодзі, брата Алёшы.*
*Зведаць вернасць школьных*
*сяброўак Тані, Віты, Ані...*
*І спаўна наглытацца*
*балючых слёз.*

Аднойчы ёй зрабілася вельмі страшна ў бальнічнай палаце. Падалося: па калідоры блукае смерць. Толькі не ведае, у якую палату зайсці...

Каця ў адчаі ўхапіла паперу, ручку і пачала ліхаманкава запісваць радкі малітвы, якія дыктавала ёй само сэрца:

*О, Божа, за што ты мяне пакараў?*
*Так, грэшная я — бо Ісус так*
*сказаў.*
*Тады я ўзляцела, гукнула*
*Вам тут:*
*О, злітуйся, Божа,*
*не дай мне пакут...*
***(Пераклад паэта Валерыя Шыханцова.)***



Людзі!

Здымем шапкі, памаўчым хвіліну. На Беларусі памерла Паэтка. Звяла кветка, не зведаўшы плода. Адышла ў нябыт дзяўчынка, непацалаваная каханым, не спазнаўшая радасці жыцця. Для яе тут, на зямлі, былі райскімі дні, калі каталася на санках, калі бегала ў школу, калі гуляла са сваімі любімцамі — кошачкай Люськай, папугайчыкамі Рамэо і Джульетай...

У студзені 1993 года Каця ўпершыню прыехала з Оршы ў Мінск. Не ў сталічны цырк завітала, а ў... бальніцу.

*Мама Вера — верыла!*
*Каця — хацела жыць!*

А злыдзень-лейкоз душыў іх слязьмі, адбіраў жыццёвыя сокі. Дзяўчынка адчула сябе ў пекле. Крычала ў снах: дзе мая тут віна?

*Не бачна ні неба, ні сонца, ні сушы,*
*А злодзеі толькі, якія душаць.*
*І многа катлоў, што з кіпячай, цягучай,*
*І многа таго, што цяпер мяне мучыць...*

Сябры!

Каця да апошняга дзянёчка верыла, што знойдзецца адзіны яе Бог на зямлі. Прыйдзе, выхапіць з бяды, падорыць Надзею.

Яна была цярплівай перад болямі і пісала вершы доктару Аляксею Віктаравічу Аляксейчыку.

Яна ніколі не хацела засмучаць маму і апошні верш прысвяціла ёй:

*Ах, мама, якое цудоўнае слова!*
*Хацела б я вечна яго вымаўляць.*
*Сэрца ў надзеі — ачуняю скора*
*І буду, як мячык, у садзе скакаць!!!*

Гэты верш Каця даслала нам, у Дзіцячы фонд. Прыгожым, натхнёным почыркам пісала яна, што збіраецца прыехаць на пасяджэнне дзіцячага парламента. Прысвяціла сваім аднагодкам верш "Сябры".

Была ў Каці адна мара. Шчыра напісала нам: "Пацешная мая мара, яна ніколі не спраўдзіцца..." Хворая дзяўчынка хацела мець маленькую малпачку...

Не дачакаліся мы Каці на дзіцячым парламенце.

Знайшлі добрых людзей, якія абяцалі падарыць Каці малпачку.

Удакладнілі Кацін адрас. Даведаліся расклад электрычак на Оршу...

Горкая вестка апярэдзіла наш прыезд да Каці...

Палітыкі, правадыры і палкаводцы нацыі!

Чаму на Беларусі пакутуюць і паміраюць дзеці?

Ачніцеся ад пякучых слёз маці, якая штодня галосіць па сваёй красачцы.

Давайма спяшацца ладзіць для дзяцей зямны рай, шчодра дарыць ім дабро!

Людзі (спадары, гаспадары, таварышы, дзецюкі, панове)!

Даволі маўчаць. Наступіла ціхае выміранне нацыі. Пахаванняў болей, чым хрэсьбін. Вяселляў амаль столькі, як і разводаў. Сірацеюць і гінуць дзеці пры жывых бацьках...

А Каці Лышчышынай — пухам родная зямелька.

Хай, дзяўчынка, закалыхваюць твой сон пяшчотныя беларускія бярозкі.

Хай, дачушка, спяваюць табе калыханку галасістыя салаўі.

Тваёй Малітвай, Кацюша, паспрабуем ратавацца:

*І сонца над намі ўзыдзе, як калісь,*
*Не будзе катлоў, ды пакут, ды і болю,*
*Хутчэй ты вяртайся ка мне —*
*хоць калі! —*
*Адзіны ў нябёсах мой Бог на зямлі.*

Даруй, Паэтка, і бывай.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**пісьменнік, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Беларускі дзіцячы фонд, дабрачынныя фонды "Мы — дзецям" і "Дзецям Чарнобыля" аб'явілі з 15 снежня 1993 г. сваю калядную акцыю "Хворым дзецям — нашы сэрцы". Яна прадоўжыцца месяц. Задача пастаўлена вельмі ўдзячная: наведаць з каляднымі падарункамі дзяцей-інвалідаў, дзяцей-сірот былых афганцаў і загінуўшых міліцыянераў, а таксама пабываць у бальніцах, дзе Новы год будуць сустракаць хворыя дзеці. Усе жадаючыя прыняць удзел у гэтай акцыі могуць прапанаваць свае паслугі па тэлефонах: 36-62-67, 36-62-14, 220029, Мінск, пр-т Скарыны, 31. Грашовы рахунак Беларускага дзіцячага фонду ў гарадскім аддзяленні Белбізнесбанка 707801 (код 764) з адзнакай "Калядны падарунак". Валютны рахунак 00067901 у Белзнешэканамбанку, г.Мінск.**

**Адгукніцеся, добрыя сэрцы!**

## ЗВАРОТ

### арганізацый — удзельнікаў кансультацыйнай нарады патрыятычна-дэмакратычных сіл да дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

Шаноўныя дэпутаты! Працэс палітычных і эканамічных рэформаў ідзе ў вельмі складанай для нашай краіны сітуацыі. Для ўсіх нас вельмі важна ў гэты цяжкі час захаваць законнасць у грамадстве, забяспечыць пераймальнае развіццё і рэфармаванне ўсіх асноўных дзяржаўных структур. Шмат што ў вырашэнні гэтай задачы залежыць ад гатоўнасці праваахоўных органаў і іншых сілавых структур служыць перш за ўсё закону і дзяржаве. Але тыя працэсы, якія ўсе мы назіраем вакол гэтых структур выклікаюць сур'ёзную заклапочанасць і насцярожваюць грамадства. Перш за ўсё мы маем на ўвазе стварэнне непрадугледжанага Канстытуцыяй і незацверджанага Вярхоўным Саветам і непадкантрольнага яму Дзяржсакратарыята па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы, які спрабуе, па сутнасці, кіраваць Міністэрствам унутраных спраў і Міністэрствам абароны. І нават умешваецца ў справы Камітэта дзяржаўнай бяспекі, падпарадкаванага Вярхоўнаму Савету. З боку кіраўніцтва Дзяржсакратарыята неаднаразова гучалі неабгрунтаваныя заявы, якія наносілі шкоду адносінам Рэспублікі Беларусь з іншымі дзяржавамі, у тым ліку з Расіяй і ЗША.

Самую сур'ёзную заклапочанасць выклікае таксама незаконнае стварэнне спецслужбаў, дзеянне якіх не прадугледжана існуючымі законамі і знаходзіцца па-за кантролем Вярхоўнага Савета. Да чаго гэта можа прывесці, паказалі падзеі 9 лістапада, калі ў грамадстве абсалютна "на роўным месцы" была створана крызісанебяспечная сітуацыя, і краіна аказалася на мяжы дзяржаўнага перавароту і грамадзянскай вайны.

На вялікі жаль, Камісія Вярхоўнага Савета па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбе са злачыннасцю паказала няздольнасць усталяваць дзейсны кантроль за небяспечнымі працэсамі вакол сілавых структур. Прычына гэтага найперш у тым, што членамі гэтай камісіі з'яўляюцца асобы, якія адначасова прадстаўляюць кантралюемыя ёю органы.

Небяспечнасць сітуацыі прымушае нас звярнуцца да Вас, шаноўныя дэпутаты, з наступнымі прапановамі:

1. Абмеркаваць на пасяджэнні сесіі пісьмо старшыні КДБ і міністра МУС, пытанні і факты выкладзеныя ў ім.

2. Стварыць дэпутацкую камісію па расследаванню дзейнасці Дзяржсакратарыята, а таксама абставін, якія прывялі да стварэння пагрозы крызісу, а таксама абгрунтаванасці апошніх перамяшчэнняў у МА і МУС.

3. Разгледзець пытанне аб мэтазгоднасці захавання ў структуры Саўміна Дзяржсакратарыята па барацьбе са злачыннасцю і нацыянальнай бяспецы як незаконнай і небяспечнай для стабільнасці ў краіне структуры.

На наш погляд, гэтыя захады дазволяць пазбегнуць далейшага ўцягвання сілавых структур у палітычную барацьбу, перапыніць небяспечны працэс стварэння пад выглядам дзяржаўных, а па сутнасці, незаконных сілавых структур, арыентаваных на працэсы пэўных палітычных груповак, забяспечыць законнасць і парадак у грамадстве ў складаны пераходны перыяд.

**Зварот падпісалі:**
**Партыя народнай згоды**
**Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада**
**Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі**
**Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць**
**Таварыства беларускай мовы**
**Беларускае згуртаванне вайскоўцаў**
**Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі**
**Беларуская сялянская партыя.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** Гэты зварот зачытаў у "Розным" народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шаўцоў. Па просьбе многіх народных дэпутатаў мы знаёмім з ім і чытачоў "Народнай газеты".

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Нельга змяніць жыццё ў асобнай вёсцы, трэба думаць пра ўсю Беларусь!

**Сяргей ПЛЫТКЕВІЧ**

Учора на сесіі Вярхоўнага Савета выступіў з інфармацыяй старшыня Дзяржэканамплана Сяргей Лінг. Яго прамова тычылася менавіта тых пытанняў і патрабаванняў, якія прагучалі напярэдадні з вуснаў дэпутатаў-аграрнікаў. Ды што там напярэдадні — учора гэту тэму ў "Розным" зноў падняў народны дэпутат Васіль Трафіменка. Ён, як і яго калегі, у чарговы раз прасіў аказаць сельскай гаспадарцы дапамогу, прапаноўваў нават спыніць у Мінску будаўніцтва метро і адправіць усе зэканомленыя грошы на вёску.

Сяргей Сцяпанавіч Лінг выйшаў да мікрафона і сказаў, што тыя 230 мільярдаў рублёў, якія трэба было заплаціць сельскай гаспадарцы, выплачаны ўжо ў суме 232 мільярдаў.

— Што датычыцца запазычанасці сельскай гаспадарцы, то, сапраўды, адзінаццаць мільярдаў мы павінны заплаціць — гэта розніца цэн на малако. Гэтая сума будзе пералічана сёння. З сямідзесяці мільярдаў рублёў, якія павінны быць выплачаны за перавышэнне ўзроўню мінулых гадоў, трыццаць шэсць мільярдаў выплачана, на два прадстаўлены дакументы, астатняя сума таксама павінна быць афармлена ва ўстаноўленым парадку з прадстаўленнем нам дакументаў. Дзевяць мільярдаў рублёў павінна было Міністэрства рэсурсаў за мяса, пастаўленае сельскай гаспадаркай па клірынгу. Шэсць з іх ужо выплачаны, тры будуць выплачаны на гэтым тыдні. Атрыманыя сельскай гаспадаркай сто мільярдаў крэдыту (крэдыт гэты каротка-тэрміновы, двухмесячны) сельскай гаспадарцы паступілі ўжо, аплата па працэнту складае звыш 21 мільярда рублёў. З іх толькі пяць заплаціць сельская гаспадарка, а шаснаццаць — Міністэрства фінансаў.

Другое пытанне — закупачныя цэны. Мінсельгасхарч у пачатку месяца ставіў пытанне аб павелічэнні закупачных цэн на малако ў 1,7 раза. 26 лістапада гэтыя цэны павышаны ў 1,7 раза і рэнтабельнасць малочнай вытворчасці складае каля 10%. Была просьба Мінсельгасхарчу павысіць у 1,3 раза закупачныя цэны на ялавічыну. У пачатку лістапада мы павысілі іх у 1,2 раза, а 26 лістапада яшчэ ў 1,2 раза. У цэлым — у паўтара раза. Былі прадстаўлены дакументы, што для таго, каб выйсці на рэнтабельную вытворчасць свініны, трэба павялічыць цэны ў 1,7 раза. Павялічаны адзін раз у 1,5 і другі раз — у 1,2. Такім чынам, закупачныя цэны на свініну павышаны за месяц у два разы. Але пасля гэтага нам прыйшлося з першага снежня ў два разы павысіць і рознічныя цэны на малако, у тры разы — на смятану і тварог і ў два разы — на хлеб. Такім чынам, услед за закупачнымі цэнамі ідзе рост і рознічных цэн. І працэс гэты будзе працягвацца...

Не ведаю, ці задаволіла гэтая інфармацыя дэпутатаў-аграрнікаў, але асабіста мне прыведзеныя факты яшчэ раз паказалі: мы знаходзімся ў замкнёным коле. І нельга змяніць сітуацыю, патрабуючы дадатковых ільгот то для адной, то для другой катэгорыі грамадзян рэспублікі. Дадзім адным — гэтага запатрабуюць хутка і ўсе астатнія. І ўсё пачнецца спачатку.

І дэпутатам трэба не змагацца за паляпшэнне жыцця толькі сваіх выбаршчыкаў або прыхільнікаў, трэба думаць, як стварыць такія ўмовы, калі працавітыя і таленавітыя людзі самі змогуць зарабляць сабе на добрае жыццё. Вось такія ўмовы і маглі б быць выпрацаваны пры прыняцці новай Канстытуцыі рэспублікі. Але для дэпутатаў зноў, як і ў папярэдні дзень, непераадольным бар'ерам стаў раздзел Канстытуцыі аб прэзідэнце. Якім ён павінен быць — "моцным" ці "слабым", кіраўніком дзяржавы і выканаўчай улады ці толькі дзяржавы? Зноў гучалі розныя меркаванні, і зноў дэпутаты не змаглі прагаласаваць нават за саму назву "Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь". А якое можа быць далейшае абмеркаванне, калі не вырашана канцэптуальнае палажэнне, калі дагэтуль невядома — будзе ў нас прэзідэнт ці не?

Пачынаючы раніцай абмеркаванне Канстытуцыі, Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч паведаміў, што са 152 артыкулаў 88 прыняты поўнасцю, 13 часткова, не прыняты і нельга іх разглядаць 43, не прыняты і разглядаць можна 8.

У чытачоў, якія нерэгулярна сочаць за сесіяй Вярхоўнага Савета, можа ўзнікнуць пытанне: як гэта нельга разглядаць? А таму і нельга, што дэпутаты ніяк не вызначацца з прэзідэнцтвам. З-за гэтага і немагчыма абмеркаванне ўсіх артыкулаў, дзе так ці інакш успамінаецца прэзідэнт.

Таму дэпутатам і прыходзіцца пакуль што абмяркоўваць тыя артыкулы, па якіх можна набраць неабходную для іх прыняцця колькасць галасоў. Зноў вялікія спрэчкі выклікае артыкул аб рэферэндуме: калі рэферэндум лічыцца адбыўшымся, а рашэнне на рэферэндуме прынятым. І зноў ён не праходзіць.

Лепшы лёс чакае восьмы раздзел Канстытуцыі, які прысвечаны Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь. Усе артыкулы гэтага раздзела прымаюцца, і дэпутаты прыступаюць да абмеркавання фінансавай сістэмы Рэспублікі Беларусь...

❑

Учора напрыканцы вячэрняга пасяджэння ў парламенце выступіў Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч. Ён паведаміў, што ў яго адбылася сустрэча з прэм'ерам Расіі Віктарам Чарнамырдзіным. Дасягнута дамоўленасць па шэрагу важнейшых пытанняў. Галоўная праблема — энергетычная. Тут абодва бакі пагадзіліся на "нулявым" варыянце — Беларусь не павінна Расіі ні аднаго долара, ні аднаго расійскага рубля. Што датычыцца імпарту газу, дык тут наша запазычанасць складае 150 млрд. рублёў. Да нас прыехаў Фамін, які вядзе перамовы з намеснікам Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Брылем. Дарэчы, цяпер у рэспубліку газу паступае больш, чым у гэты ж перыяд мінулага года.

В.Чарнамырдзін даў даручэнне Шохіну сустрэцца з У.Заламаем і правесці перамовы па пытаннях адзінай грашовай адзінкі. Як адзначыў В.Кебіч, расійскі прэм'ер лічыць, што на сённяшні дзень толькі Беларусь можа ўвайсці ў адзіную грашовую сістэму.

В.Чарнамырдзін запэўніў нашага прэм'ера, што з 15 снежня на мяжы з Беларуссю будуць зняты мытневыя пункты. Ён папрасіў толькі, каб Беларусь узмацніла кантроль на мяжы з Польшчай і Літвой.

В.Кебіч праінфармаваў дэпутатаў, што будуць змяненні ў падатковай палітыцы — па гэтай праблеме працуе спецыяльная нарада. З падрабязнай інфармацыяй аб вырашэнні праблем аграпрамысловага комплексу ў парламенце выступяць кіраўнікі адпаведных міністэрстваў.

*Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь*

№812

## Аб правядзенні Міжнароднага дня інвалідаў

У сувязі з правядзеннем 3 снежня 1993 г. Міжнароднага дня інвалідаў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Выканкамам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям правесці адпаведныя мерапрыемствы, арганізаваць сустрэчы з інвалідамі, адшукаць магчымасці для аказання матэрыяльнай дапамогі маламаёмным інвалідам, бясплатных транспартных паслуг таварыствам інвалідаў.

Прапанаваць выканкамам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў разгледзець пытанне аб аказанні ў 1994 годзе фінансавай дапамогі абласным, гарадскім і раённым арганізацыям інвалідаў для развіцця іх матэрыяльнай базы.

2. Міністэрству сацыяльнага забеспячэння да 1 лютага 1994 г. абагульніць пажаданні, выказаныя інвалідамі пры правядзенні Міжнароднага дня інвалідаў, і па пытаннях, якія патрабуюць рашэння ўрада, унесці адпаведныя прапановы.

**Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М.МЯСНІКОВІЧ.**

**Кіраўнік спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**
**М.КАЎКО.**

1 снежня 1993 г. г.Мінск.

